ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ДЭКАДНІК

СЭКТАРУ КНІГАГАНДЛЮ ДзВБ

№ 7 (13) | РАССЫЛАЕЦЦА ПА ЎСЁЙ СВЕЦІ КНІГАГАНДЛЮ ПА РАЗЬВЁРСТЦЫ | АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Пляц Волі 5, тэл. № 7—41 | 10 сакавіка 1932 г.



## РАБОТА ФІЛІЯЛАЎ НЕ ЗАБЯСЬПЕЧВАЕ ВЫКАНАНЬНЕ ГАНДАЛЬФІНПЛЯНУ. ЧАС, ЯКІ ЗАСТАЎСЯ — СКАРЫСТАЦЬ НА ВЫКАНАНЬНЕ ГАНДАЛЬФІНПЛЯНУ

Пастанова ЦК партыі ад 15 жніўня яскрава падкрэсьліла задачы савецкага кнігагандлю. Гэта пастанова ЦК ставіць задачу каранным чынам зьмяніць і сыстэму распаўсюджваньня. Тое, што існавала раней на практыцы, разьмеркаваньне кніжнай продукцыі павінна быць зьменена савецкім кнігагандлем, гэта значыць, актыўным распаўсюджваньнем кнігі з падрабязным улікам гаспадарчых і культурных профілей асобных раёнаў, а таксама спэцыяльных запатрабаваньняў асобных груп спажыўцоў, перш-наперш рабочых, колгасьнікаў і саўгасьнікаў. Такім чынам, уся праца павінна быць перабудована на аснове жывой сувязі з спажыўцамі кнігі і ад гэтага, зразумела, залежыць пасьпяховае выкананьне гандальфінпляну. Плян рэалізацыі літаратуры ў 1932 г. намечаны ў суме 9 млн. руб. у параўнаньні з леташнім годам, дае значнае павялічэньне. Выкананьне гэтых плянаў цалкам залежыць ад перабудовы нашае штодзеннае працы на аснове пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б і ажыцьцяўленьня 6 ўмоў т. Сталіна.

Ня гледзячы на прарыў у выкананьні гандальфінпляну ў 1931 г. праца з кнігаю ў студзені і лютым не дала належнага пералому ў напрамку рэалізацыі вызначаных плянаў. Асноўныя прычыны прарыву ў выкананьні гандальфінпляну за 2 месяцы першага кварталу: адсутнасьць масавай працы з кнігаю, адсутнасьць кантролю за працаю райкнігарняў і дрэнная сувязь з асноўнымі спажыўцамі кнігі.

Філіялы, якія ня здолелі да гэтага часу выканаць свае гандальфінпляны, павінны зараз-жа перабудаваць сваю працу, павінны павесьці належную працу з асортымэнтам літаратуры. Філіялам патрэбна штодзенна праводзіць працу з кожнаю навінкаю, якая выходзіць з друку, абгварыць яе і вызначыць шляхі карыстаньня гэтаю кніжкаю, уцягваючы ў абгаварэньне кожнай навінкі ўсіх супрацоўнікаў кніжнага калектыву. Зразумела, што распаўсюджваньне на аснове масавай працы павінна даць належныя посьпехі ў прасоўваньні. Апартуністычнае невыкананьне гандальфінпляну паасобнымі філіяламі яскрава сьведчыць, што калектыў кніжных працаўнікоў не мобілізаван навакол задач выкананьня і гэта вынік адпаведнага кіраўніцтва філіяламі.

Час, які застаўся да сканчэньня першага кварталу, павінен быць цалкам скарыстан на ліквідацыю прарыву двух месяцаў. Трэба па баявому ў гэты час перайсьці на масавае распаўсюджваньне масава-палітычнае і сельска-гаспадарчае літаратуры. Ніякія аб'ектыўныя прычыны ня могуць быць апраўданьнем невыкананьня гандальфінплянаў. Кіраўнікі філіялаў зараз-жа павінны мабілізаваць калектыў кніжных працаўнікоў, шырока абгаварыць прычыны прарыву, уцягнуць грамадзкасьць і прыняць належныя захады да рэалізацыі плянаў першага кварталу, давёўшы плян да кожнага працаўніка кнігарні.

Справіцца з задачамі выкананьня мы павінны і зможам выканаць усе паказальнікі гандальфінпляну першага кварталу, калі сапраўды выйдзем з кнігаю за сьцены сваіх філіялаў і кнігарняў, калі большую частку сваёй працы з кнігаю мы будзем праводзіць непасрэдна на фабрыках, заводах, колгасах, саўгасах, чырвонаармейскіх частках, навучальных установах і г. д.

Мы заклікаем усіх кніжных працаўнікоў філіялаў і кнігарняў райспажыўсаюзаў уключыцца па-бальшавіцкі на ажыцьцяўленьне і выкананьне ўсіх плянаў першага кварталу 1932 г.

## Цалкам перайсьці на мэтад папярэдніх заказаў.

Паводле пастаноў ЦК Усе КП(б) і ЦК КП(б)Б „Аб выдавецкай справе“ мы перайшлі з мэтаду распаўсюджваньня кнігі, на мэтад кнігагандлю.

З 1-а студзеня 1932 г. намі уведзены анатацыйныя сьпісы, паводле якіх кнігарнямі ДВБ, БАКТ'аў і Райспажыўсаюзаў даюцца папярэднія заказы на ту ці іншую кнігу. Практыка 2 з паловай месяцоў паказала, што нашы кнігагандлёвыя работнікі на пэрыфэрыі (асабліва сыстэмы БАКТ'у і РСС) відавочна не даацэньваюць важнасьці гэтага мерапрыёмства. Заказы па анатацыйных сьпісах даюцца толькі некаторымі кнігарнямі, а астатнія зусім не адказваюць, гэтым самым прымушаюць у нас часткова прытрымлівацца мэтаду кнігараспаўсюджваньня.

Анатацыйныя сьпісы і „Дэкаднік“ павінны быць настольнымі кнігамі кожнага кнігагандлёвага работніка, для орыентацыі ў літаратуры, якая паступае да яго і для працы з асортымэнтам; выходзячы з гэтага, анатацыйныя сьпісы ні ў якім разе нельга адсылаць, а зьвярнуць трэба толькі карэнчыкі з заяўкамі на патрэбную колькасьць літаратуры. Анатацыйныя сьпісы павінны таксама служыць і для атрыманьня папярэдніх заказаў ад спажыўцоў.

Практыка заявак на літаратуру па анатацыйных сьпісах паасобных філіялаў і кнігарняў паказвае недаацэнку сур'ёзнасьці гэтай справы. Напрыклад—Магілёўскі філіял і ў апошні час Бабруйскі—даюць відавочна апартуністычна паменшаныя заяўкі: сярэдняе 25-50 экз. па кожнай кніжцы, па ўсіх сэктарох. Другія філіялы—Гомельскі, Віцебскі—даюць павялічаныя заяўкі: сярэдняе 300-600 экз., зусім ня лічачыся з рынкам збыту, што можа стварыць затаваранасьць.

Сыстэма заказаў уведзена не на тое, каб затаварываць філіялы, а для таго, каб кнігі скарыстоўваліся цалкам і як мага лепш. Філіялам, атрымаўшым анатацыйныя сьпісы, неабходна абгаварыць іх на калектыве, сабраць папярэднія заяўкі ад больш буйных спажыўцоў кнігі і толькі тады даваць абгрунтаваныя заяўкі.

Кнігагандлёвым работнікам неабходна забясьпечыць тэрміновасьць адсылкі заявак па анатацыйных сьпісах, гэтым самым даючы магчымасьць вызначыць рэальныя тыражы і забясьпечыць своечасовасьць выхаду кнігі з друку і давядзеньня яе да спажыўца.

Гельфанд.

# Вышлі з друку
## за сакавік

### ПАРТМАСПАЛІТсэктар

**Рэзолюцыі XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі, зацьверджаныя пленумам ЦК Усе КП(б).** ст. 60 т. 45.000 ц 15 к.

**Севін С.**—Паўночна-Амэрыканскія злучаныя штаты. ст. 140 т. 3000 ц. 55 кап.

**Рашэньні XVII усесаюзнай партконфэрэнцыі ў масы.** 1-е. Вынікі разьвіцьця прамысловасьці за 1931 г. і задачы 1932 г. 2-е. Дырэктывы да складаньня другога пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі СССР. ст. 32 т. 20.000 ц. 12 кап.

**Адарацкі В.**—Аб значэньні марксыцка-ленінскай тэорыі ст. 20 т. 8.000 ц. 4 кап.

**Бэкер Раймонт.**—Жыцьцё і змаганьне амэрыканскага пролетарыяту. стар. 204 т. 3.000 ц. 95 кап.

### СЕЛЬГАСсэктар

**Дарогін Г. Н.**—Хваробы дрэў і расьлін. (Сад і гарод) з 93 малюнкамі. ст. 112 т. 3.000 ц. 75 кап.

**Карой І. А.**—Як арганізаваць работу МТС З дапаўненьнямі і зьменамі па БССР. 80 ст т. 10.000 ц. 25 кап.

**Сьмірноў Ф.**—Машына-трактарныя станцыі. Ст. 40 т. 1.000 ц. 12 к.

**Ганрыо В. Інж.**—Стукі ў рухавікох трактароў „Фордзон" і „Ф.П.". Ст. 68 т. 3.000 ц. 65 кап.

**Ляўша Т.**—Дырэктывы партыі і ўраду аб разьвіцьці соцыялістычнае жывёлагадоўлі. Ст. 68 т. 7.000 ц. 25 кап.

**Ляўша Т.**—Дырэктывы партыі па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньні колгасаў. Ст. 4 т. 10.000 ц. 20 кап.

**Скарубскі Э.**—Памятка трактарыста рулявога. Ст. 56 т. 7.000 ц. 20 кап.

**Навіцкая Н. К.**—Карысныя і шкодныя жывелы ў сельскай гаспадарцы БССР. Навукова-популярны артыкул для колгасьнікаў і сялян. Ст. 76 т. 4.000 ц. 35 кап.

**Котт С. А.**—Пустазельныя і дзікарастучыя расьліны на сілос і корм жывёлам. Ст. 40 т. 7.000 ц. 20 кап.

**Міцькоў С. Г.**—6 умоў т. Сталіна ў колгасную вытворчасьць. Ст. 64 т. 10.000 ц. 30 кап.

**Фралоў Ф.** Паліва для трактароў. ст. 48 т. 5.000, ц. 25 кап.

**Антонаў І. П.** Збожжавая радковая сеялка. ст. 36 т. 5.000, ц. 25 кап.

**Сараеў А.** Рахіт парасят. ст. 48 т. 5.000 ц. 25 кап.

### ВАЙСКОВЫсэктар

**Хрыпін В** Наш паветраны флёт. ст. 52 т. 7.000 ц. 20 кап.

**Чырвонаармейскі палітпадручнік.** Агульна-палітычны курс. Разьдзел II-гі. Дыктатура пролетарыяту і Саветы. ст. 36 т. 4.000, ц. 25 к.

**Брыскін Б М.** д р Самадапамога і ўзаемадапамога раненым і газаатручаным. ст. 40 т. 5.000 ц. 15 кап.

**Барацьба з паветрана-хэмічнаю небясьпекаю.** З 40 малюнкамі ў тэксьце. (ТДАвіяхэм СССР) ст. 140 т. 5.000, ц. 70 кап.

**Нарушэвіч.** Паветраныя сілы нашых суседзяў. ст. 104 т. 3.000 ц. 85 кап.

### ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІсэктар

**Ванэк К.** Прыг ды ўдалага ваякі Швэйка, Ч. 5. ст. 204. т. 5.000. ц. 90 к. перапл. 20 к.

**Крапіва.** Хвядос-Чырвоны нос. (казка). ст. 94. т. 3.000. ц. 1 р. 55 к.

### ЮНДЗЕТсэктар

**Лебедзеў А.** Юныя будаўнікі калгасаў. ст. 136 т 5.000 ц. 45 кап.

# ДРУКУЮЦЦА

### НАЦсэктар

На яўрэйскай мове.

### МАСПАРТПАЛІТсэктар

Гвяздоўскі С. Соцыял-фашысты перад фашысцкім судом. 1,5 арк.

Міцькоў. 6 умоў тав. Сталіна ў колгаснай працы. 4 арк.

Ленін. Задачы рускіх сацыял-дэмакратаў 1,5 арк.

Ленін. 2 тактыкі соцыял-дэмакратаў у дэмократычнай рэволюцыі. 8 арк.

Рэзалюцыі XVI зьезду КП(б)Б. 2 арк.

Рубінштэйн. Тэорыя і практыка соцыял-фашызму. 5 арк. Дае аналіз опортунізму правадыроў II-гі Інтэрнацыяналу за ўвесь пэрыяд яго існаваньня. Высьвятляе змаганьне Леніна супроць цэнтрызму і супроць левых у нямецкай соцыял-дэмократыі. Паказана тэорыя і практыка польскага соцыял-фашысцкага „Бунду". Праблемы актуальныя і пол тычна завостраныя ў сьвятле пастаноў Комінтэрну.

Шнэйдэр Н. Катастрафічнае становішча яўрэйскіх працоўных мас у Заходняй Беларусі. 2,5 арк. Аллюстроўваецца сапраўднае становішча ў Заходняй Беларусі—жыцьцё і змаганьне працоўных пад прыгнётам польскіх акупантаў. Паказваецца роля соцыял-фашыстаў, асабліва „Бунду" як саюзьніка польскіх фашыстаў і Пілсудзкага Паказана праца Камуністычнае партыі Заходняй Беларусі сярод яўрэйскіх працоўных мас.

Рубашоў С. проф. Пераліваньне крыві 1 арк. Популярная брошура пра мэханізм пераліваньня крыві.

### СЕЛЬГАСсэктар

Лабадаеў. Пра асноўныя задачы веснавое сельскагаспадарчае кампаніі 1932 г. 2 арк.

Шкоднікі саду і спосабы змаганьня з імі. 1 арк.

### ВАЙСКОВЫсэктар

Фёдараў. Дэгазацыя. 2,5 арк. Знаёміць з асаблівасьцямі баявых атручвальных матэрый, галоўным чынам, з катэгорыяй трывалых. Даюцца спосабы дэгазацыі мясцовасьці, адзеньня, ежы і вады. Коратка, але добра знаёміць масавага чытача з і пабудоваю прыстасаваньнямі для дэгазацыі з працаю гэтых прыстасаваньняў. Разьлічана на масавага чытача. Карысна для падрыхтоўкі да абароны наогул і да асабовае абароны.

### ЮНДЗЕТсэктар

Сьвірэны. Хітрыя майстры. 0,5 арк.

б) На польскай мове.

Гвяздоўскі. Соцыял-фашысты перад фашысцкім судом. 0,5 акр. (Пераклад з беларускае мовы).

На літоўскай мове.

Міцькоў. 6 умоў тав. Сталіна ў колгаснай працы. (Пераклад з беларускае мовы) 4 арк.

Даклад тав. Молатава і рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі. 3 арк.

Волкапялоў. Сьвінагадоўля ў колгасах 6 арк. Падручнік для сельскагаспадарчых гурткоў у колгасах. Матар'ялы падаюцца адпаведна запатрабаваньням сьвінагадоўчых фэрмаў.

**Рэдакцыя „Дэкаднік" просіць філіялаў даслаць зьвесткі аб рэалізацыі масава-палітычнай і сельска-гаспадарчай літаратуры.**




Выдавец—Кнігасэктар ДВБ. Адказны рэдактар Я. Клейнэр.

Друк. імя Сталіна. Зак. № 613 1.400 экз. Уп. галоўлітбелу № а 209